ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СЕРАДА, 24 мая 2000 года

№ 39 (8108)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

## ПРЭС-ЦЭНТР РАЙВЫКАНКАМА ІНФАРМУЕ

На планёрцы ў панядзелак старшыня райвыканкама А.С.Сцяпанчанка праінфармаваў прысутных аб візіце ў калгас "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага кітайскай дэлегацыі, які адбыўся ў нядзелю, 21 мая г.г.

А.С.Сцяпанчанка паведаміў таксама аб сходзе ў саўгасе "Шыннік", які кіраўнік раённай "вертыкалі" правёў з нагоды пісьмовага звароту генеральнага дырэктара Беларускага шыннага камбіната "Белшына" А.К.Палякова з просьбай прыняць "Шыннік" у раённую камунальную ўласнасць, бо для прадпрыемства стратна ўтрымліваць такую падсобную гаспадарку. У ходзе абмеркавання было вырашана, што на дадзеным этапе няма сэнсу прымаць "Шыннік" у камунальную ўласнасць раёна.

У ходзе планёркі начальнік РВА ЖКГ М.В.Кульша праінфармаваў аб становішчы з забеспячэннем школ, дзіцячых садкоў, жыхароў шматпавярховых дамоў райцэнтра пітной вадой. Ён адзначыў, што на працягу апошніх дзён ціск у сістэме нармальны, вада ідзе без перабояў, скаргаў ад насельніцтва не паступала. На свідравінах арганізавана кругласутачнае дзяжурства. У чацвер, пятніцу праводзіліся праверкі ў жылым сектары на прадмет выяўлення расходвання вады на паліў агародаў. Такіх грамадзян шмат, і да іх будуць прымяняцца меры ўздзеяння.

А.С.Сцяпанчанка прад'явіў шмат прэтэнзій да работы магазіна "Малако" райцэнтра. На мінулым тыдні заўвагі па нездавальняючай рабоце гандлёвай кропкі выказалі пабываўшыя ў Кіраўску прадстаўнікі аблвыканкама на чале з начальнікам упраўлення гандлю аблвыканкама А.Л.Забелам. У магазіне, яго бытавых памяшканнях няма належнага парадку, не завозіцца ў дастатковай колькасці прадукцыя маслазавода, не задавальняе выкладка тавараў, бедны іх асартымент, няма дакладнасці ў вядзенні дакументаў. Тлумачэнні на планёрцы давала дырэктар масларобчага завода З.А.Далгіх. Ёй прапанавана ўхіліць недахопы.

На планёрцы было даведзена да ведама прысутных, што 24 мая адбудзецца чарговае пасяджэнне раённага выканаўчага камітэта.

## ТЭМПЫ НЕ ЗАДАВАЛЬНЯЮЦЬ

Ва ўсіх аддзяленнях паштовай сувязі, паштальёнаў і грамадскіх распаўсюджвальнікаў ідзе падпіска на перыядычныя выданні на другое паўгоддзе. Толькі вось тэмпы яе правядзення пакуль не задавальняюць паштавікоў. Так, усяго выпісана 1553 экземпляры газет і часопісаў, што складае 8,4 працэнта да запланаванага.

Як адзначыла інструктар па падпісцы Т.Я.Жвірблеўская, ва многім ход падпіскі стрымліваюць новыя цэны, якія значна павялічаны. Напрыклад, газета "Советская Белоруссия" падаражэла на 510 рублёў. Але, усё ж такі прыхільнікі ў яе ёсць, і пакуль менавіта гэта выданне лідзіруе па колькасці выпісаных экземпляраў. Аддаюць перавагу жыхары раёна таксама "Магілёўскім ведамасцям" і "Кіраўцу".

Нягледзячы на фінансавыя цяжкасці, ужо афармілі падпіску раённы аддзел культуры, санаторый калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, пракуратура, цэнтр занятасці насельніцтва, падатковая інспекцыя. А сярод гаспадарак праявіла аператыўнасць толькі СКП "Ніва".

Час бяжыць няўмольна, і за штодзённымі клопатамі можна забыць пра падпіску. Таму не адкладвайце яе на пасля, а ўжо зараз займіцеся гэтай справай.

**Наш кар.**

## ВЕСТКІ З ПАЛЁЎ

*Па дадзеных райсельгасхарчу, па становішчу на 23 мая г.г. у гаспадарках раёна пасеяна* **18246 гектараў,** *што складае* **99,1 працэнта** *да плана. У тым ліку: збожжавыя і зернебабовыя, рапс, лён — па* **100%,** *бульба —* **97,8%,** *аднагадовыя травы —* **99,5%,** *кукуруза —* **95,8%,** *караняплоды —* **84,9%** *да плана.*

*Хімпраполка праведзена на* **370 гектарах** *кукурузы,* **170** *— лубіну,* **205** *— рапсу,* **853** *— яравой пшаніцы,* **731** *— аўса,* **1527** *— ячменю,* **120** *— караняплодаў,* **35** *— ільну,* **20** *— бульбы,* **9** *— морквы.*

*Апрацавана ад шкоднікаў* **751 гектар** *рапсу,* **182** *— ільну.*

*Падсеяна* **5480 гектараў** *шматгадовых траў, у тым ліку* **3356** *— канюшыны.*

*Травы першага ўкосу скошаны на* **12 гектарах.**

*Перасеяна* **214 гектараў** *загінуўшых культур.*

## ГОСЦІ З КІТАЯ НА РАССВЕТАЎСКАЙ ЗЯМЛІ

*У мінулую нядзелю наш раён наведала афіцыйная дэлегацыя Усекітайскага сходу народных прадстаўнікоў на чале з намеснікам старшыні камітэта сходу па пытаннях нацыянальнасцей Вэй Цзісунам. Дэлегацыя пабывала ў Мінску, Магілёве і ў суправаджэнні памочніка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь — галоўнага інспектара па Магілёўскай вобласці Ю.А.Кулакоўскага, намесніка старшыні аблвыканкама, старшыні аблсельгасхарчу П.А.Кандратава і іншых афіцыйных асоб прыбыла на Кіраўшчыну з мэтай наведвання калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага. Тут кітайскіх гасцей шчыра сустракалі прадстаўнікі раённых улад на чале са старшынёй райвыканкама А.С.Сцяпанчанкам, старшыня калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага В.М.Іваноў, старшыня Мышкавіцкага сельскага Савета дэпутатаў С.М.Клімовіч. У знак павагі і гасціннасці кітайскай дэлегацыі быў паднесены хлеб-соль. Затым у кабінеце В.М.Іванова адбылася зацікаўленая размова. Як і належыць, пачалася яна са знаёмства бакоў, пасля чаго стала вядома, што дэлегацыю гасцей складаюць прадстаўнікі розных нацыянальнасцей і рэгіёнаў Кітая.*





*В.М.Іваноў пазнаёміў іх з гісторыяй гаспадаркі, яе структурай, эканамічнымі і сацыяльна-культурнымі аспектамі дзейнасці калектыву.*

*У сваёй прамове А.С.Сцяпанчанка адзначыў, што госці з Кітая — упершыню на зямлі Кіраўскага раёна за ўсе гады яго існавання. Кіраўнік раённай "вертыкалі" прывёў звесткі аб колькасці насельніцтва Кіраўшчыны, займаемых раёнам плошчах, коратка расказаў аб яго сацыяльна-эканамічным развіцці.*

*Госці праз перакладчыка задавалі пытанні, іх цікавіла многае: спецыфіка работы асобных падраздзяленняў "Рассвета", лад жыцця сельскіх працаўнікоў, іх даходы, іншае. Пасля абмену падарункамі і сувенірамі для кітайскай дэлегацыі была арганізавана экскурсія па гаспадарцы. Каментарыі па ходу яе давалі Ю.А.Кулакоўскі і В.М.Іваноў.*

*Вэй Цзісун шчыра прызнаўся, што да прыезду сюды лічыў, што калгасы ў Беларусі займаюцца толькі вырошчваннем сельскагаспадарчых культур, і здзівіўся, калі даведаўся, што яны і перапрацоўваюць прадукцыю, і рэалізоўваюць яе.*

*У сваю чаргу паведаміў, што калгасаў у Кітаі няма, існуе своеасаблівы "сямейны падрад": зямля даецца ў арэнду сем'ям на 30 гадоў. Па яго словах, арандатары няблага забяспечваюць іх шматнаселеную краіну сельскагаспадарчай прадукцыяй.*

*Вялікую цікавасць гасцей выклікала наведванне дома, дзе жыў першы старшыня "Рассвета" славуты К.П.Арлоўскі. Асабліва адметным быў для іх той факт, што Кірыла Пракопавіч з 1940 па 1942 гады знаходзіўся на тэрыторыі Кітая, ваяваў за яго свабоду.*

*На Валосавіцкай малочнатаварнай ферме замежныя госці праявілі жывы інтарэс да спецыфікі ўтрымання жывёлы па нямецкай і чэшскай тэхналогіях, уважліва аглядалі абсталяванне. Тлумачэнні даваў галоўны заатэхнік гаспадаркі П.У.Яцкевіч.*

*Цёпла сустрэлі прадстаўнічую дэлегацыю выхавальнікі і выхаванцы калгаснага дзіцячага садка. Яго загадчыца Л.І.Яфімава адзначыла, што захоўванне і падтрыманне здароўя дзяцей — адзін з прыярытэтных напрамкаў работы дашкольнай установы. Яна пазнаёміла прысутных з умовамі ўтрымання дзяцей, іх творчасцю. Рабяты падарылі на памяць расчуленым гасцям свае вырабы.*

*Аб тым, як пастаўлена работа ў Мышкавіцкім сельскім Доме культуры, дзіцячай школе мастацтваў расказалі загадчык райаддзела культуры Т.Л.Галубоўская, дырэктар школы мастацтваў У.Б.Барэйша. Мастацкі кіраўнік СДК К.А.Кіпрыянава правяла экскурсію па народнаму музею калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага.*

*Завяршыўся візіт ускладаннем кветак да бюста К.П.Арлоўскага і мемарыяла "Памяць". Гасцей пачаставалі смачным абедам у калгасным рэстаране, пасля чаго дэлегацыя выехала ў Бабруйск на шынны камбінат "Белшына".*

**Наталля ХАДАКОВА.**

***На здымках: хлеб-соль кітайскім гасцям на рассветаўскай зямлі; ідзе зацікаўленая размова.***

**Фота Івана Лукановіча.**

## РАБОТА ПРЫЗНАНА НЕЗДАВАЛЬНЯЮЧАЙ

**18 мая на базе СКП "Чырвоны баец" былі падведзены вынікі работы жывёлагадоўчай галіны раёна за 4 месяцы бягучага года. Тут адбылося выязное пасяджэнне раённага выканаўчага камітэта.**

Заслухаўшы інфармацыю намесніка начальніка ўпраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Д.М.Хаброва і тлумачэнні кіраўнікоў калгасаў імя Чапаева, імя Ільіча, Жыліцкага сельскагаспадарчага каледжа, саўгаса імя Кірава, галоўнага заатэхніка калгаса "Камуніст" (І.І.Дарафея, І.П.Епіхава, М.У.Шалкоўскага, В.Б.Таркана, Г.П.Наскавец), раённы выканаўчы камітэт адзначыў, што за 4 месяцы г.г. гаспадаркамі раёна надоена 5225 тон малака (79% да ўзроўню 1999 г.). Сярэдні ўдой малака ад адной каровы — 676 кілаграмаў (82% да ўзроўню мінулага года). Слабая кармавая база, якая склалася летась, а таксама маючыя месца парушэнні тэхналагічнай дысцыпліны ў шэрагу гаспадарак не дазволілі выйсці па вытворчасці малака за студзень-красавік бягучага года на ўзровень 1999 г. Вялікі недабор малака склаўся ў калгасах "Камуніст" (51% да леташняга ўзроўню), імя Чапаева (60%), імя Ільіча (24%), Жыліцкім сельгаскаледжы (64%).

Недакорм жывёлы ў зімовы час прымусіў большасць гаспадарак выгнаць жывёлу на пашы яшчэ ў красавіку. У пераходны перыяд для страўлівання дойнаму статку было выдзелена 1053 гектары пасеваў з разліку 10 сотак на адну карову. У калгасе імя Ільіча, саўгасе імя Кірава не страўлівалі ніводнай соткі. Мізэрная колькасць азімага жыта для гэтых мэт была выдзелена ў калгасах "Камуніст", "Беларусь", імя Чапаева, СЗАТ "Бераснёўскае". Жывёла знаходзілася на неадрослых культурных пашах, што наносіла непапраўны ўрон развіццю травастою. Як вынік, на сёння маюць пашы са зрэджаным скудным травастоем і нізкі ўзровень прадуктыўнасці дойнага статка калгасы "Камуніст", імя Чапаева, імя Ільіча. Выпадкі выпасу жывёлы без электраагароджы назіраліся ў калгасах "Беларусь", "Радзіма", імя Кірава, імя Ільіча.

Адзін з тэхналагічных момантаў, які дазволіць палепшыць рэжым пасьбы, а значыць і павысіць прадуктыўнасць дойнага статка — гэта кругласутачная пасьба. Па становішчу на 16.05.2000 г., яна была арганізавана толькі ў трох гаспадарках: калгасе "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, Жыліцкім сельгаскаледжы і саўгасе імя Кірава.

Яшчэ адзін з тэхналагічных прыёмаў, дазваляючых узняць прадуктыўнасць статка — трохразовае даенне кароў. Па становішчу на 16.05.2000 г., трохразовае даенне арганізавана толькі ў сямі гаспадарках: калгасах імя Кірава, імя Дзяржынскага, імя Свярдлова, "ІІІ з'езд Саветаў", СКП "Ніва", СЗАТ "Бераснёўскае", Жыліцкім сельгаскаледжы.

За 4 месяцы бягучага года сярэднясутачныя прывагі буйной рагатай жывёлы склалі 240 грамаў. Вельмі нізкія сярэднясутачныя прывагі ў калгасах "Камуніст" — 26 грамаў, імя Свярдлова — 99, імя Ільіча — 97, СЗАТ "Бераснёўскае" — 84, Жыліцкім сельгаскаледжы — 81 грам.

Раённы выканаўчы камітэт вырашыў прызнаць нездавальняючай работу праўленняў калгасаў імя Чапаева, "Камуніст", імя Ільіча, дырэкцый саўгаса імя Кірава, Жыліцкага сельгаскаледжа па арганізацыі летне-пашавага перыяду і вытворчасці малака ў летні час. За бескантрольнасць і прыніжаную патрабавальнасць да галоўных спецыялістаў і спецыялістаў сярэдняга звяна кіраўнікам калгасаў імя Чапаева І.І.Дарафею, імя Ільіча І.П.Епіхаву, дырэктару саўгаса імя Кірава В.Б.Таркану, заатэхніку калгаса "Камуніст" Г.П.Наскавец аб'яўлены вымовы, дырэктару Жыліцкага сельгаскаледжа М.У.Шалкоўскаму — заўвага. За зрыў ветэрынарнага мерапрыемства па абязрожванню маладняку буйной рагатай жывёлы кіраўніку СЗАТ "Бераснёўскае" М.М.Кахно аб'яўлена заўвага. Райвыканкам абавязаў кіраўнікоў калгасаў "Камуніст", "Радзіма", імя Кірава, СЗАТ "Бераснёўскае", саўгаса імя Кірава на працягу тыдня выкупіць абязрожвальнікі з Бабруйскага агразааветзабеспячэння.

**Поздравляем!**

**г. п. Кировск, детский сад №3, НИНЕ ЯКОВЛЕВНЕ ВИНОКУРОВОЙ**

**Уважаемая Нина Яковлевна!**

*Поздравляем Вас с днем рождения.*

*Примите наши самые искренние пожелания: здоровья, благополучия, счастливых и радостных дней, света, добра и теплоты от родных и друзей.*

*Пусть Ваша жизнь*
*не знает суеты,*
*Пусть Ваши годы*
*будут молодыми,*
*Пусть дарят Вам*
*улыбки и цветы,*
*И никогда не*
*расставайтесь с ними.*
*Пусть Ваше сердце*
*дарит людям свет*
*И пусть он будет*
*искренен и светел,*
*Жить вам в достатке*
*много-много лет*
*На этом трудном,*
*но прекрасном свете.*

**Коллектив работников детского сада №3.**

# ПАКАЗАЛІ СВАЁ МАЙСТЭРСТВА

У рамках Міжнароднага дня сям'і ў раённым Доме культуры прайшла творчая справаздача дзіцячых калектываў мастацкай самадзейнасці РДК. Усяго тут дзейнічае 12 клубных дзіцячых фарміраванняў, у якіх займаюцца 213 хлопчыкаў і дзяўчынак розных узростаў.

У фае была разгорнута выстава вырабаў выхаванцаў, якія займаюцца ў гуртку разьбы па дрэве: Мішы Курылава, Валянціна Шупана і Рыгора Фралова. Хлопчыкі вучацца майстэрству пад кіраўніцтвам А.В.Ткачова.

Дырэктар Дома культуры Т.М.Шмялёва запрасіла ўсіх у залу, дзе на прыгожа аформленай сцэне паказвалі свае здольнасці ўдзельнікі гурткоў.

Вядучая Наталля Лукашэнка, якая выступала ў ролі "Дамавога", аб'явіла першы нумар: "Вас вітаюць нашы маленькія "Салавейкі"!" Кіраўнік вакальнага гуртка В.В.Фядотава працуе ў РДК са снежня, але за гэты кароткі тэрмін здолела выявіць талент у самых маленькіх артыстаў — Косці Лютарэвіча, Паўліка Уніятава, Насці Каўрыжкінай, Вікі Фалінскай. Рабяты выканалі дзве песні, адну з якіх — "Дружба" напісала мама Косці Алена Іванаўна Лютарэвіч.

Доўга гучалі дружныя апладысменты ў адрас рабят узорнага танцавальнага калектыву "Паскакушкі" (мастацкі кіраўнік Э.І.Калмыкова). Эма Іванаўна ганарыцца сваімі выхаванцамі: Кацярынай Клімовіч, Яўгеніяй і Алесяй Катлінскімі, Таццянай Слабодчыкавай, Гуляй Кушарбаевай, Вольгай Кандраценка, Янай Караткевіч, Машай Пацэвіч, Русланам і Уладзіславам Хілько. Дарэчы, Руслан — саліст у калектыве.

Ні адна забаўляльная праграма не абыходзіцца без удзелу рабят з тэатральнага і лялечнага гурткоў, заняткі ў якіх вядзе Н.В.Лукашэнка. Выхаванцы паказалі старую казку на новы лад — "Церамок" і казку "Лісіца-вучаніца". З задавальненнем наведваюць гурткі Надзея Жаўлакова, Алена Куляўцова, Вольга Шупікава, Кацярына Харлап, Ірына Пятроўская, Марына Костка, Аня Хадакова, Сяргей Шашанка і іншыя.

Спадабаліся прысутным выступленні выхаванцаў А.С.Сцепановіча з клуба баявых мастацтваў "Юнайт". Сюды прыходзяць не толькі хлопцы, але і дзяўчаты. Члены клуба набываюць навыкі рукапашнай барацьбы, у іх выпрацоўваюцца такія якасці, як узаемавыручка, сяброўства, уменне пераадольваць цяжкасці. Нядаўна рабяты прымалі ўдзел у адкрытым першынстве рэспублікі. Два разы ў год выхаванцы здаюць атэстацыю на ступень майстэрства. Трое з іх маюць зялёныя паясы, шасцёра — жоўтыя, а астатнія — белыя. Вылучаюцца набытым майстэрствам Арцём Цярэшчанка, Раман Акуліч, Вадзім Маркевіч, Віктар Шапялевіч.

Дружнымі апладысментамі сустракалі гледачы спевакоў Кацярыну Пятроўскую, Настассю Філіну, Андрэя Баброва, удзельнікаў ансамбля "Вясёлка". Развіццём творчасці гэтых рабят займаецца таксама В.В.Фядотава.

Сумным было развітанне культработнікаў з выхаванцамі старэйшых груп гурткоў, якія сёлета заканчваюць школу. Дырэктар Дома культуры Т.М.Шмялёва ўручыла ім падзячныя пісьмы і сувеніры.

Падзячныя пісьмы ад кіраўніцтва ўстановы культуры былі таксама ўручаны бацькам выхаванцаў гурткоў, якія прымаюць актыўны ўдзел у жыцці Дома культуры.

Пасля справаздачнага канцэрта ў дыскатэчнай зале ўсе прысутныя прымалі ўдзел у гульнёвай праграме.

**Таццяна БАРАДЗІНА.**

## ✶ У свеце цудоўнага



***У свой час Аксана Мікалаеўна Савіцкая закончыла Лідскае музычнае вучылішча, аддзяленне харавога дырыжыравання. З 1996 года яна працуе ў раённай школе мастацтваў выкладчыкам харавога аддзялення. Калісьці Аксана Мікалаеўна сама закончыла Кіраўскую музычную школу, а зараз вучыць спасцігаць азы музыкі і спеваў сваіх выхаванцаў.***

***А яшчэ Аксану Савіцкую многія ведаюць як выдатную спявачку: у яе рэпертуары — песні на ўласныя словы і музыку, а таксама папулярныя эстрадныя хіты. Яна часта прымае ўдзел у канцэртах на раённай сцэне, не так даўно стала пераможцай раённага конкурсу патрыятычнай песні.***

***На здымку: А.М.Савіцкая вядзе заняткі ў харавым класе з Вольгай Галко, адной з лепшых выхаванак школы мастацтваў.***

**Фота Івана Лукановіча.**

# УДАЧНЫЙ ВЫБОР



*Глянула жена на мужа*
*И воскликнула: "О, ужас!*
*Где голова моя была,*
*Кого в мужья себе взяла?*
*Чего спортсмена*
*не искала,*
*Красавцев разве*
*было мало*
*Крутых, накаченных*
*к тому ж?*
*(Пародия на них мой муж).*
*Но есть другая сторона,*
*И тут не прогадала я —*
*Супруг невзрачен,*
*потому*
*Я верю полностью ему.*
*Совсем он неказист*
*на вид,*
*Соперница мне не*
*грозит.*
*А что слабак, то ерунда,*
*Могу я без проблем*
*всегда*
*Родному руки заломать*
*И даже кости*
*посчитать.*
*Такого мужа*
*отхватила!*
*Как это раньше*
*не ценила?*
*Со мною золото живет,*
*Хоть не блестит,*
*а только пьет.*

**Анжелика ЛАВРИНЕНКО, д.Осовник.**

**Прэс-аўтаклуб**

# "УВАГА: ДЗЕЦІ!"

Узровень дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму па-ранейшаму застаецца высокім і выклікае сур'ёзную трывогу і заклапочанасць. Улічваючы такое напружанае становішча на дарогах і ў сувязі з надыходам летніх канікулаў, у перыяд з 20 мая па 5 чэрвеня праводзіцца мэтавая аперацыя "Увага: дзеці!". У яе правядзенні задзейнічаны супрацоўнікі ДАІ, інспекцыі па справах непаўналетніх і іншыя службы міліцыі. Мэта — прафілактыка дзіцячага дарожна-транспартнага траўматызму з выкарыстаннем практычных форм навучання дзяцей навыкам бяспечных паводзін на вуліцах і дарогах.

У мэтах засяроджвання ўвагі дзяцей на рухаючымся транспарце, усе вадзіцелі ў перыяд з 25 мая па 1 чэрвеня павінны ездзіць у светлы час сутак з запаленым бліжнім святлом фар.

**Аляксей КАРНІЕНКА, старшы інспектар ДПС АДАІ.**

# ЗАПРАШАЕМ НА ТЭХАГЛЯД

Завяршаецца тэхагляд грамадскага транспарта, а на чарзе транспарт індывідуальных уладальнікаў. Запрашаем усіх аўта- і мотааматараў у прадугледжаныя графікам дні і час прыбыць на тэхагляд. Пры сабе неабходна мець пасведчанне аб абавязковым страхаванні, а для тых грамадзян, чый транспарт не прайшоў тэхагляду ў 1998 годзе, яшчэ і квіткі аб уплаце збору з уладальнікаў транспартных сродкаў за 1997-1998 гады.

Тэхагляд транспарта ўладальнікаў, пражываючых у г.п.Кіраўску, пройдзе 10 чэрвеня з 14 да 17 гадзін і 11 чэрвеня з 11 да 15 гадзін на плошчы каля аддзялення ДАІ РАУС, у Жылічах — 1 ліпеня з 14 да 17 гадзін, на тэрыторыі Мышкавіцкага сельсавета — 3 чэрвеня, Добасненскага — 24 чэрвеня, Паўлавіцкага — 8 ліпеня, Баравіцкага — 15 ліпеня, Казуліцкага — 22 ліпеня, Любоніцкага — 29 ліпеня, Грыбавецкага — 5 жніўня, Стайкаўскага сельсавета — 12 жніўня. Ва ўсіх сельсаветах тэхагляд будзе праводзіцца з 14 да 17 гадзін. Збор — каля будынка сельскага Савета, у Мышкавічах — на плошчы каля калгаснай дыспетчарскай. Грамадзяне, якія па ўважлівых прычынах не змогуць прайсці тэхагляд свайго транспарта ў вызначаныя дні, маюць права зрабіць гэта ў аддзяленні ДАІ РАУС да 30 лістапада.

**Сяргей АСІПЁНАК, начальнік аддзялення ДАІ РАУС.**



## Да ўвагі абанентаў тэлефоннай сеткі райцэнтра і раёна!

***З 17 мая г.г. адкрыты аўтаматычны выхад на міжнародную сувязь. Правілы набору для абанентаў, уключаных у АТС Кіраўска,*** **— 8 — 10 — код дзяржавы — код горада — нумар абанента, уключаных у сельскія АТС — 9 — 8 — 10 — код дзяржавы — код горада — нумар абанента.**

***Коды дзяржаў можна даведацца па тэлефоне 09. Па пытаннях набору нумара звяртайцеся па тэлефоне 22-1-11.***

**Напамінаем, што аплата за міжнародныя размовы дастаткова высокая. Будзьце ўважлівымі пры наборы нумара.**

***Паважаныя бацькі! Кантралюйце званкі вашых дзяцей.***

**Раённы вузел электрычнай сувязі.**

**Адміністрацыя, прафсаюзны камітэт, працоўныя калектывы райветлабараторыі і райветстанцыі** выказваюць глыбокае спачуванне **Галіне Фёдараўне ЗАХОЖАЙ і яе СЯМ'І** з выпадку смерці **МАЦІ, ЦЕШЧЫ, БАБУЛІ.**

**Сям'я А.Р.Шчэрбіча** падзяляе непамернае гора з **Аленай Сяргееўнай САЎЧАНКА і яе ДЗЕТКАМІ Жэнечкай і Юрыем** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ Дзмітрыя.**

**Калектыў настаўнікаў і тэхработнікаў, вучні 1 і 4 класаў Добасненскай сярэдняй школы** падзяляюць вялікае гора з **Аленай Сяргееўнай САЎЧАНКА і яе ДЗЕЦЬМІ** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ.**

**Сем'і І.А.Калатковай, Г.В.Ганчаровай** падзяляюць вялікае гора з **Аленай Сяргееўнай САЎЧАНКА і яе ДЗЕЦЬМІ** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ.**

**Сем'і Л.У.Асташовай і Л.У.Сідарэнкі** выказваюць спачуванне **Алене Сяргееўне САЎЧАНКА і яе ДЗЕЦЯМ** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ.**

**Выхавальнікі, памочнік выхавальніка, выхаванцы II "А" малодшай групы дзіцячага садка №3 г.п.Кіраўска і іх бацькі** выказваюць глыбокае спачуванне **Каці ГАРШКОВАЙ і яе БАЦЬКАМ Вользе Іванаўне і Сяргею Мікалаевічу** з выпадку напаткаўшага іх вялікага гора — дачаснай смерці **СЯСТРЫЧКІ, ДАЧУШКІ Аленкі.**

**Адміністрацыя, педагагічны калектыў і тэхработнікі Жыліцкай СШ** выказваюць глыбокае спачуванне **Валянціну Фёдаравічу і Сяргею Валянцінавічу ЧЫСТАБАЕВЫМ** з выпадку смерці **ЖОНКІ, МАЦІ.**

**Адміністрацыя, прафкам, працоўны калектыў раённага вузла паштовай сувязі** глыбока смуткуюць з выпадку смерці былога начальніка аддзялення сувязі п.Жылічы **Марыі Раманаўны ЧЫСТАБАЕВАЙ** і выказваюць спачуванне **СЯМ'І, РОДНЫМ і БЛІЗКІМ** памёршай.

**Сям'я А.І.Палілея** выказвае глыбокае спачуванне **Алене Сяргееўне САЎЧАНКА і яе СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ.**

**Сям'я Я.М.Кавалёва** выказвае глыбокае спачуванне **Алене Сяргееўне САЎЧАНКА і яе СЯМ'І** з выпадку дачаснай смерці **МУЖА, БАЦЬКІ.**


**Нам. рэдактара Наталля Хадакова**

*Заснавальнікі: Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў, Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт, рэдакцыя газеты "Кіравец"*

Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш*
*Газета выходзіць у сераду і суботу на беларускай мове.*

*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.*
*Бабруйская ўзбуйнёная друкарня імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.*
*Друк афсетны. Тыраж мая 2773.*